ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ
ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№ 47 (2449) 23 лістапада 1995 г.
Выдаецца з 1955 г. Цана 800 рублёў.

*ПОГЛЯД САЦЫЁЛАГА*

## ІНФАРМАЦЫЯ — ДАРАГІ ТАВАР

**Аляксандр Лімарэнка, дацэнт кафедры сацыялогіі Беларускага дзяржаўнага універсітэта, кіраўнік цэнтра маркетынгавых і сацыялагічных даследаванняў, спецыяліст у адносна новай у нашай краіне галіне. Магчыма, нехта з гэтым не пагодзіцца, маўляў, сацыялогія была даўно і сацыёлагаў хапала і пры савецкай уладзе. Усё, здаецца, так. Але то была намінальная сацыялогія, адзін са сродкаў ідэалагічнага забеспячэння тагачаснага палітычнага рэжыму. Сёння сацыялогія нарэшце пачала рабіць тое, чым і павінна займацца: вывучаць грамадства і збіраць аб'ектыўную інфармацыю пра яго стан. Напрыклад, Аляксандр Лімарэнка і яго група спецыялізуюцца на камерцыйных апытаннях, праводзяць даследаванне рынку, працуюць як па заказах сваіх, так і замежных фірмаў. Але не застаецца па-за ўвагай і вывучэнне грамадскай думкі па сацыяльных і палітычных праблемах. Гэтыя тэмы распрацоўваюцца як на універсітэцкай кафедры, так і па заказах дзяржаўных органаў і сродкаў масавай інфармацыі. Такім чынам, наш сённяшні субяседнік -- сацыёлаг Аляксандр ЛІМАРЭНКА.**

*-- Аляксандр Пятровіч, дык што ж у наш час мяняецца ў сацыялогіі?*

-- Так, час ідзе, час мяняецца, і зараз мы працуем болей, чым раней, гэта бясспрэчна, але вось ці лепей?

Дарэчы, гэта можна сказаць не толькі пра нас, сацыёлагаў. Урэшце, як паказваюць даследаванні, і на Беларусі, і ў суседняй Расіі існуюць дзве асноўныя гіпотэзы пра тое, што адбываецца з грамадствам, а гэта значыць, з усімі намі. Адны заяўляюць, і небеспадстаўна, што людзі ў гэтых краінах ніколі так шмат не працавалі, як сёння. Другія ж гавораць пра актыўны працэс люмпенізацыі, дзяржаўны развал і таксама маюць рацыю.

*-- Якая ваша пазіцыя?*

-- Я лічу, [illegible] выснова з гэтага адна: ідуць і тыя, і [illegible]ыя працэсы, таму вывучаць грамадства сёння трэба як мага шырэй і глыбей.

**[Заканчэнне на 3-й стар.].**

**ПАШТОЎКА З БЕЛАРУСІ**



**Нясвіж -- адзін са старадаўніх і найпрыгажэйшых гарадоў Беларусі. Гісторыя многае захавала і да нашых дзён. Напрыклад, палац Радзівілаў (на здымку).**

**Фота Эдуарда КАБЯКА.**

**ПАМЯЦІ НАРОДНАГА ПЕСНЯРА**

## ЧАРГОВЫЯ КАЛАСАВІНЫ

Штогод на пачатку лістапада праходзяць Каласавіны. Гэтае свята адбываецца з нагоды нараджэння вялікага песняра Беларусі Якуба Коласа.

Вось і сёлета свята пачалося першага лістапада. У гэты дзень у Літаратурным музеі Якуба Коласа прайшла імпрэза для дзяцей "Казкі жыцця". Паважанымі гасцямі ўрачыстасці былі Эдзі Агняцвет, Артур Вольскі, Ніна Галіноўская. Беларускія пісьменнікі прачыталі юным наведвальнікам свае вершы.

Шаноўным госцем быў і Міхась Канстанцінавіч Міцкевіч, малодшы сын Якуба Коласа, герой паэмы "Міхасёвы прыгоды". Дарэчы, у гэтым годзе мінула 60 гадоў з дня выхаду ў свет твора.

Днямі ў Літаратурным музеі Якуба Коласа праходзіла навуковая канферэнцыя, прысвечаная 70-годдзю паэмы "Сымон-музыка" і 40-годдзю трылогіі "На ростанях". Перад ёю госці агледзелі выставу "Сымон-музыка". Гаворку пачала дырэктар музея З.Камароўская.

**НА ЗДЫМКУ: стрыечны ўнук вялікага песняра Юрась МІЦКЕВІЧ сустракае гасцей у Альбуцы.**

**[Заканчэнне на 7-й стар].**



## МІЖВАЕННАЯ БЕЛАРУСІЗАЦЫЯ: ЗНЕШНІ АСПЕКТ

У ліпені 1924 года ў жыцці беларускага народа адбылася вельмі важная палітычная і культурная падзея, якая атрымала шырокую вядомасць і па-за межамі дзяржавы. Пад уплывам магутнага нацыянальна-адраджэнскага працэсу, які ішоў пераважна добраахвотным, ініцыятыўным шляхам, да яго не маглі не праявіць пэўнай зацікаўленасці, а не -- дык і далучыцца дзяржаўныя і партыйныя органы ўсіх звёнаў. Надалей займаць пазіцыю чакання вярхам ужо ніяк не выпадала, бо і так масы, дзякуючы настойлівай мэтанакіраванай працы беларускай нацыянальна-свядомай інтэлігенцыі, значна апярэджвалі афіцыйныя структуры ў пытаннях нацыянальнага Адраджэння. Зыходзячы з такога становішча, другая сесія Цэнтральнага Выканаўчага Камітэта (ЦВК) БССР прымае 15 ліпеня 1924 года спецыяльную пастанову "Аб практычных мерапрыемствах па правядзенні нацыянальнай палітыкі", якой вызначыла асноўны змест таго, што ўвайшло ў гісторыю пад тэрмінам беларусізацыя. Яна складалася з трох асноўных кампанентаў: арганізацыя адукацыі і выданне кніг на беларускай мове; вылучэнне беларусаў на кіруючыя пасады; перавод службовага справаводства на беларускую мову.

У палітыкі беларусізацыі адразу ж з'явілася шмат працўнікаў, у тым ліку і сярод высокіх дзяржаўных і партыйных работнікаў, але паколькі яна мела дырэктыўны характар, дык падлягала няўхільнаму правядзенню ў жыццё.

**[Працяг на 6-й стар.].**

# ІНФАРМАЦЫЯ — ДАРАГІ ТАВАР

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

*-- Як я разумею, з гэтым (маецца на ўвазе вывучэнне) праблем сёння няма. На Беларусі апошнім часам з'явілася даволі разгалінаваная сетка сацыялагічных лабараторый, цэнтраў. Працы хапае ўсім?*

-- Пакуль хапае, хаця Беларусь -- не Расія, дзе ўжо практычна сфарміраваўся рынак інфармацыйных паслуг.

Вядома, што ў нармальнай, сучаснай эканоміцы інфармацыя — самы дарагі тавар. У нас у краіне, на жаль, многім патэнцыяльным заказчыкам, нават палітыкам, гэта чамусьці незразумела. Людзі гатовыя плаціць за тавар, іншым разам за работу, праўда, таксама няшмат, але інфармацыя -- амаль апошняе, за што яны выкладуць грошы. Менавіта з-за такога нецывілізаванага падыходу да спраў рашэнні часта прымаюцца неабгрунтаваныя, пад уплывам пачуццяў, эмоцый замест строгага аналізу і разлікаў.

*-- Атрымліваецца, што мы яшчэ не дараслі да сучасных падыходаў, сучаснай арганізацыі жыцця і справы?*

-- Я лічу, што справа крыху ў іншым. На мой погляд, мы шмат у чым традыцыйнае грамадства: у нашым жыцці велізарную ролю адыгрываюць менавіта эмоцыі, мы менш прагматыкі, не "бухгалтарскія" людзі. У нас і "правая", і "левая" апазіцыя ў першую чаргу жыве пачуццямі, дзейнічае шмат у чым падсвядома. І выбаршчыкі таксама вядуць сябе падобным чынам. Спецыялісты ўжо даўно зрабілі такі вывад, а цяперашнія даследаванні гэта цалкам пацвярджаюць: для нашых грамадзян пры галасаванні важныя наступныя тры фактары-матывы галасавання. Першае: падсвядомае, эмацыянальнае ўспрыняцце сацыяльнай і палітычнай сітуацыі, незадаволенасць ёю. Тады нярэдка галасуюць не столькі "за", колькі "супраць" таго, чым незадаволены. І тут выйграе апанент, хаця можа ён і не самая добрая альтэрнатыва. Другі фактар таксама, на мой погляд, вельмі істотны: наяўнасць сімпатычнага твару ў таго, хто вылучаецца на тую ці іншую пасаду, дэпутацкае месца. Трэцяе: сама асоба кандыдата. У такіх умовах давер узнікае спантанна.

Тут я хачу вылучыць адзін вельмі істотны момант. У сувязі з гэтым апошнім часам у адрас нашага народа гучыць шмат папрокаў, асабліва з боку нацыянальна арыентаваных радыкалаў: маўляў, беларусы не хочуць быць беларусамі, галасуюць неяк незразумела, нелагічна. А між тым нашы даследаванні гавораць аб процілеглым.

*-- Сапраўды, дзіўна...*

-- Тым не менш, я паспрабую абгрунтаваць свае словы.

Па-першае, паводзіны беларускіх выбаршчыкаў досыць рацыянальныя: галасуюць супраць таго, пры кім жыццё пагоршылася. Гэта цалкам натуральны падыход, так галасуюць і на Захадзе. У Злучаных Штатах Картэр, сумленны чалавек, выдатны прэзідэнт, не быў перавыбраны на свой пост з-за таго, што пры ім падняліся цэны на бензакалонках. Прагматычныя паводзіны -- прыкмета сучаснага грамадства.

Другое. Што тычыцца культуры. Тут таксама, лічу, часта можна было б абысціся і без папрокаў.

Падабаецца каму ці не, але мы павінны гаварыць пра такую рэальную тэндэнцыю (дарэчы, уласцівую развітому грамадству), як касмапалітычная свядомасць. Да прыкладу, як ні супрацiўлялася Францыя і зараз супраціўляецца "вестэрнізацыі" сваёй культуры, выцісканню яе амерыканскай культурай, зрабіць нічога не можа.

*— Але, мне здаецца, касмапалітычная свядомасць -- гэта наступная лагічная ступень пасля фарміравання паўнавартаснай нацыянальнай свядомасці...*

—Я б не падзяляў усё на нейкія ступені, бо і адзін, і другі працэсы існуюць побач, нават сутыкаюцца. Трэба адмаўляцца ад схем. Асабліва ў культуры, дзе развітыя этнасы захоўваюць свае звычкі і традыцыі, набываючы новыя якасці, у тым ліку і наднацыянальныя, і гэта не знішчае культуру той жа Францыі ці Італіі.

*-- Культуру Францыі ці Італіі -- не. Але нацыянальную культуру Беларусі касмапалітызм знішчыць.*

-- Наконт знішчэння ўсякай культуры існуе шэраг спрэчных пытанняў. Якая культура знішчаецца? Якая адраджаецца? Усе даследаванні паказваюць, што ў Беларусі руская культура большасцю насельніцтва не ўспрымаецца як чужая. Тут няма антаганізму. Я б нават сказаў, што сёння Беларусь -- бікультурная прастора, і такой яна хутчэй за ўсё і застанецца.

Але я таксама згодны, што тут хаваецца і пэўная пагроза ўласна беларускай культуры, нацыянальнай спецыфіцы. Зараз мы перажываем чарговую спробу беларусізацыі, чым яна завершыцца -- цяжка сказаць...

*-- Здаецца, сёння ўжо можна канстатаваць, што яна завершана. Дакладней, яе завяршылі. Чым -- казаць трэба.*

-- Справа нават не ў тым, "чым яе завяршылі". Погляд сацыёлага якраз і адрозніваецца ад погляду палітыка, журналіста тым, што сацыёлаг звяртае ўвагу на пэўныя ўстойлівыя працэсы, якія часта знаходзяцца па-за сферай валявога ўздзеяння асобных людзей, нават прэзідэнтаў. Калі казаць пра Беларусь, то так павялося, што мовай горада зрабілася руская мова. Не сакрэт, што з тых, хто прыехаў з вёскі і не мог хутка "перабудавацца", нават насміхаліся. Нічога добрага ў гэтым, безумоўна, няма, гэта ўсё зрабіла вельмі негатыўны ўплыў на нашу культуру, але трэба разумець аб'ектыўнасць працэсу.

Але ў адносінах да будучыні беларускай нацыянальнай культуры я -- аптыміст і не падзяляю боязь нашай інтэлігенцыі, якая сапраўды шчыра хвалюецца за лёс беларускай мовы, культуры, літаратуры. Я лічу, перакананы, што Беларусь не толькі была, ёсць, але і будзе існаваць пры любых абставінах. І гэта перакананне грунтуецца на фактах, шматлікіх выніках сацыялагічных даследаванняў. Кожны, хто жыве ў Беларусі, лічыць сябе менавіта жыхаром Беларусі. Усё пытанне ў тым, як людзі ідэнтыфікуюць сябе. Многім хацелася б, каб грамадзяне Беларусі ідэнтыфікавалі сябе па этнакультурных прыкметах. Каб так атрымлівалася, то і спрачацца не было б пра што. Але наша моладзь у большасці ідэнтыфікуе сябе па тэрыторыі пражывання.

*-- Тутэйшыя?*

-- Можна сказаць, і тутэйшыя.

*-- Але ж усё гэта не можа не турбаваць.*

-- А вось тут, як паглядзець. Менавіта такі тып самаідэнтыфікацыі характэрны для развітога заходняга грамадства, да якога мы апошнім часам так пільна прыглядаемся.

Так, згодны, з аднаго боку, можна казаць пра недастатковае развіццё нашай нацыянальнай самасвядомасці, а з другога -- канстатаваць, што сучасны масавы тып асобы ў Беларусі адпавядае пэўным крытэрыям заходняга грамадства. Наш чалавек дастаткова рацыянальны, паводзіць сябе прагматычна, не верыць уладзе, будзе лічыць сябе жыхаром менавіта гэтай тэрыторыі, нават калі яна ўвойдзе пяцьдзесят якім-небудзь штатам якой-небудзь федэрацыі. Ён -- за росквіт Беларусі. А заможная Беларусь заўсёды падтрымае і сваю культуру. І хаця я ўпэўнены, зноў паўтару, што Беларусь застанецца бікультурнай прасторай, бо руская культура ўвогуле вельмі канкурэнтаздольная, беларускую культуру таксама ніхто нікуды не выцісне, і яна, безумоўна, застанецца. Але падтрымка ёй неабходная. На жаль, сёння Беларусь вельмі бедная дзяржава, і шмат чаго чакаць ад яе не трэба.

*-- Але я тут цалкам з вамі пагадзіцца не магу. Усё ж такі за апошнія два-тры гады ў нас у справе нацыянальнага адраджэння назіраўся пэўны зрух. Невялікі зрух, але тым не менш ужо з'явіліся падставы для пачатку працэсу фарміравання шырокай нацыянальнай самасвядомасці: стала больш беларускамоўных школ, пакрысе ачышчалася ад ідэалагічных напластаванняў айчынная гісторыя, беларуская мова пачала ўжывацца прадстаўнікамі ўлады... На жаль, цяпер усе гэтыя пакуль кволыя парасткі новага зноў старанна знішчаюцца.*

-- Зноў-такі лічбы гавораць, што не ўсё так сумна. Ужо тры гады мы праводзім апытанні сярод студэнтаў. Павінен сказаць, дынаміка вельмі станоўчая: расце доля студэнтаў, якія ўспрымаюць сябе беларусамі з яўна акрэсленай нацыянальнай ідэнтыфікацыяй, хаця ўсё ж такі не радыкальна-этнічнай, а хутчэй рэгіянальнай.

Я б сказаў, што значна большую небяспеку для нацыянальнай культуры нясе не нейкі там уціск з боку палітыкаў, а пранікненне масавай, стандартызаванай, а таму інтэрнацыянальнай культуры. Гэта вельмі небяспечная тэндэнцыя. Паглядзіце, нашы сучасныя дзеці не толькі беларускія кніжкі не чытаюць, ім і рускія казкі сёння нецікавыя.

*-- Так, чарапашкі-ніндзя перамаглі не толькі Несцерку, але і Івана-царэвіча разам з Бабай-Ягой...*

-- Здараецца часам, як, напрыклад, у Японіі, што грамадства здольнае паспяхова адсарбіраваць усё, што трапляецца звонку, і тады не губляецца сваё, традыцыйнае. Але для гэтага патрэбны моцны імунітэт, якім мы ў Беларусі, на жаль, не валодаем.

*-- Такі імунітэт залежыць, мабыць, не толькі ад матэрыяльнага багацця краіны, але і ад таго, ці існуе ў ёй моцны нацыянальна-патрыятычны рух у самым станоўчым разуменні гэтай з'явы.*

-- Так, на жаль, нашы нацыянальна арыентаваныя палітыкі паводзяць сябе, на мой погляд, вельмі неэфектыўна і не столькі прываблiваюць, колькі адштурхоўваюць патэнцыяльных прыхільнікаў. Яны здолелі толькі аб'яднаць невялікую групу радыкальна настроеных людзей, якія ёсць ва ўсякім грамадстве і якія заўсёды гатовыя "браць" банкі, рабіць рэвалюцыі, фанатычна змагацца за якую-небудзь ідэю. Але ж задача ў тым, каб не толькі падрыхтаваць ордэн мечаносцаў нацыянальнага руху, але прывіць густ да нацыянальнай традыцыі і культуры маладому пакаленню. Я мяркую, вось тут якраз іх дзеянні і недастаткова эфектыўныя. Але мы ўсё роўна павінны быць удзячныя гэтым палітыкам, бо менавіта іхнім клопатам, можа, нават і ўціскам, але многае ўжо зроблена. Проста хочацца, каб усё было больш прадукцыйна, і, дарэчы, каб праграмы, якія будуць і надалей вылучацца, складаліся больш рэалістычна, зыходзячы з канкрэтнага становішча.

**Гутарку вяла Галіна УЛІЦЁНАК.**

**(Заканчэнне будзе).**

## *ПАПАЯ З ... НОВАЛУКОМЛЯ*



**Алея з папаі з'явілася ў Новалукомлі. Не, Віцебшчына ў тропікі не ператварылася. 18 пальм выраслі ў... цяпліцы Лукомскай ГРЭС. У раслін характэрнае лісце і плады, якія па выгляду, колеру і смаку нагадваюць дыню (адсюль другая назва -- дыннае дрэва), агульнай вагой больш за паўтоны.**

**Такі галоўны вынік эксперымента, пачатага год назад згодна з джэнтльменскім пагадненнем паміж дырэктарам Віцебскага МП "Планта", які вырасціў і бясплатна перадаў у Новалукомль саджанцы папаі, Алегам Алейнікавым і дырэктарам Лукомскай ДРЭС Львом Жураўлёвым, які іх вырасціў дрэвы.**

**Цяпер у Новалукомлі чакаюць і спадзяюцца, што папая зацікавіць медыкаў і будзе выкарыстана па галоўнаму свайму прызначэнню -- як каштоўная лекавая сыравіна для фармацэўтычнай прамысловасці. З пладоў атрымліваюць папаін -- раслінны фермент, які паскарае працэс расшчаплення бялкоў. Але гэта за мяжой. Дары мясцовай, беларускай, папаі пакуль не запатрабаваны. А ў эксперымента ж магчымы працяг.**

**НА ЗДЫМКУ: дырэктар Лукомскай ДРЭС Леў ЖУРАЎЛЁЎ ля пладовага дрэва папаі.**

**Фота Аляксандра ХІТРОВА.**

# КУЛЬТУРНЫ АБМЕН ЯК ВУЛІЦА З ДВУХБАКОВЫМ РУХАМ

У пачатку лістапада ў Мінску скончыла работу першая сесія беларуска-германскай змешанай камісіі па культурнаму супрацоўніцтву, вынікам якой стала падпісанне ўрадавага пагаднення. На цырымонію падпісання ў Міністэрства культуры і друку запрасілі журналістаў, для якіх была наладжана прэс-канферэнцыя. Намеснік міністра культуры і друку Уладзімір Рылатка адзначыў, што падпісаныя дакументы даюць магчымасць для яшчэ больш плённага супрацоўніцтва ў галіне эканомікі, культуры, адукацыі паміж Беларуссю і Германіяй. Кіраўнік германскай дэлегацыі доктар Вільфрыд Хайдэ адзначыў, што супрацоўніцтва паміж нашымі дзвюма краінамі не нагадвае пачатку асваення пустыні, яно працяг тых культурных сувязей, што складваліся на працягу доўгіх гадоў і асабліва плённымі былі пасля падпісання дагавора год таму.

Падпісаны пратакол утрымлівае дзесяць раздзелаў, у якіх прадугледжваецца супрацоўніцтва ў галіне навукі, адукацыі, вывучэння мовы краін-партнёраў, культурныя абмены, дзейнасць сродкаў масавай інфармацыі, распаўсюджванне кніг і кінафільмаў і г.д.

Падкрэслена было, што падпісанае паміж Беларуссю і Германіяй пагадненне з'яўляецца пагадненнем зусім новага тыпу, бо ахоплівае ўсю шырыню культурнага жыцця. Раней такога не магло быць нават па палітычных матывах, падпісанае ж сёлета пагадненне не страціць актуальнасці і пасля 2000 года. Асаблівасцю дакумента з'яўляецца і тое, што ён прадугледжвае перанясенне супрацоўніцтва на самы нізкі ўзровень, гэта значыць, як мага менш умяшальніцтва ўрадавага, дзяржаўнага. Абмен павінен ажыццяўляцца непасрэдна мастацкімі калектывамі, ВНУ, школамі, вучнямі...

Дзелячыся думкамі пасля падпісання пратакола, доктар В. Хайдэ сказаў, што месца Федэратыўнай Рэспублікі Германіі ў свеце залежыць ад яе палітычных і эканамічных дасягненняў, але ў роўнай меры і ад яе культурных дасягненняў і кантактаў. Не блага было б і нам зразумець, што, каб заўважылі і пачалі па-сапраўднаму паважаць у свеце нашу маладую дзяржаву, трэба і нам больш дбаць не толькі пра эканоміку, але пра культуру і духоўнасць, пашыраць не толькі дзелавыя кантакты.

У Мінску працуе нямецкі культурны цэнтр імя Гётэ, і на яго рахунку ўжо нямала карысных і цікавых спраў. Гэтая ўстанова фарміруе ў Беларусі погляд на Германію. І таму слушным з боку журналістаў было пытанне аб тым, як ствараецца грамадская думка ў Германіі аб Беларусі. На гэта доктар Хайдэ адказаў, што культурны абмен ніколі не бывае вуліцай з аднабаковым рухам. Нашы народы будуць імкнуцца пашыраць веды адзін пра аднаго, сказаў ён. Падпісанае пагадненне дае магчымасць больш інтэнсіўна прасоўваць беларускую мову, беларускую культуру за мяжу. Зараз вывучаецца пытанне аб магчымасці выкладання беларускай мовы ў навучальных установах Германіі. Беларускі і германскі бакі аднолькава зацікаўлены ў свабодным і шырокім абмене, непасрэдных сустрэчах і дыялогах усіх, хто ўдзельнічае ў культурным жыцці на ўсіх узроўнях.

**Д. ЧАРАПОВІЧ.**

*У ЗБС "БАЦЬКАЎШЧЫНА"*

# "ЮБІЛЕЙ ПАД ЧОРНЫМІ ХМАРАМІ"

На сустрэчу кіраўнікоў беларускіх суполак у замежжы, якую правяло Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына" 11—12 лістапада 1995 года, сабралася каля 120 дэлегатаў. Прыехалі далёка не ўсе запрошаныя не толькі з блізкага і далёкага замежжа, не толькі з Беларусі, — нават з Мінска. Нягледзячы на разасланыя запрашэнні і асабістыя запросіны па тэлефоне, не было ў зале дзяржаўных кіраўнікоў высокага рангу ні ад Вярхоўнага Савета, ні ад Кабінета Міністраў і адміністрацыі Прэзідэнта Беларусі. Таму і аўра ў Доме літаратара, дзе праходзіла пленарнае пасяджэнне і "круглы стол", была не той, што на пачатку станаўлення "Бацькаўшчыны".

Нагода, з якой збіраліся сябры згуртавання, нібыта і ўрачыстая — 5-годдзе з таго дня, як утварылася "Бацькаўшчына". Але гэта, як адзначыў адзін з выступаўшых, "юбілей пад чорнымі хмарамі". Галоўнае пытанне, якое было пастаўлена і прэзідэнтам ЗБС "Бацькаўшчына" Радзімам Гарэцкім ва ўступным слове, і старшынёй рады згуртавання Ганнай Сурмач у дакладзе: як выжыць у цяперашніх умовах, як навучыцца зарабляць грошы, каб утрымліваць сябе?

Некалькі гадоў назад была прынята дзяржаўная праграма дапамогі замежным суайчыннікам "Беларусы ў свеце", ды яна, адзначалася на сустрэчы, практычна не выконваецца.

Вядома, метраполія павінна клапаціцца пра дыяспару. Напрыклад, так, як Польшча пра сваіх суродзічаў у Беларусі і Літве. Красамоўны прыклад прывёў у сваім выступленні прадстаўнік віленскіх беларусаў Хведар Нюнька. У Вільнюсе пабудавана школа імя Яна Паўла II на 1 200 месцаў. Пабудавана польскай дзяржавай для сваіх суайчыннікаў у Літве. Беларусы пра такое і не мараць. Больш таго, яны і не чакаюць такой дапамогі, бо разумеюць, у якім цяжкім сацыяльна-эканамічным стане наша дзяржава сёння. Хоць бы не перашкаджалі.

Як вялікая шкода, якая падрывае працэс гуртавання беларусаў за межамі Бацькаўшчыны, бачыцца кіраўнікам суполак майскі рэферэндум па дзяржаўнай сімволіцы і мовах. Бацькі ўжо вагаюцца, ці вучыць дзяцей роднай мове. А навошта нам яна па-за Беларуссю, калі на радзіме беларуская мова не патрэбна? Пра другі бок гэтага медаля нагадаў прафесар Аляксандр Баршчэўскі з Варшавы. Моладзь з беларускіх сем'яў Беласточчыны рвецца на Беларусь, каб атрымаць тут вышэйш[illegible] дукацыю. Але праз два-тры [illegible] маладыя людзі, пабыўшы ў нашай атмасферы, губляюць тое, што набылі ў ліцэях Гайнаўкі [illegible]ьска-Падляскага: з белару[illegible] мовы пераходзяць на нашу "трасянку".

Адна з самых балючых праблем для беларусаў, што жывуць у былых савецкіх рэспубліках, як вярнуцца на Радзіму. Больш за 600 "бежанцаў" сёння ў Беларусі, але сярод іх няма ніводнага нашага суайчынніка. Яму не дапамагае дзяржава, ён, выгнаны з Сярэдняй Азіі ці Прыбалтыкі, не знойдзе прытулку ў родным краі. Кіраўнікі суполак з Эстоніі і Латвіі бедавалі: як трапіць нашым беларусам да старых і знямоглых бацькоў, як наведаць магілы продкаў? Беларусь — адзіная дзяржава ў СНД, якая патрабуе ад сваіх жа беларусаў візу на ўезд. А віза нямала каштуе. Расія для сваіх суайчыннікаў адкрыла граніцы: едзь на Радзіму, калі хочаш і на колькі хочаш. А Беларусь закрывае. Крыўдна беларусу...

Цяпер па-за межамі дзяржавы жыве 3,5 мільёна беларусаў. Яны розныя па сацыяльнаму стану і палітычных поглядах, па веравызнанню і мове. Але ўсе яны цягнуцца душой да Беларусі, услухоўваюцца ў пульс нашага жыцця, чым могуць, дапамагаюць Радзіме і чакаюць дапамогі ад яе. Таму слушнай падаецца думка аб тым, што іх праблемы павінны вырашацца на дзяржаўным узроўні. А для гэтага вельмі патрэбны закон аб замежных беларусах.

**В. КРАСЛАЎСКІ.**



Зімні світанак. Фота Аркадзія НІКАЛАЕВА.

КРЫК ДУШЫ

# МАЦІ ЦІ МАЧАХА?

Нядаўна беларусы Даўгаўпілса сабраліся на пікет ля Генеральнага консульства Рэспублікі Беларусь, дзе быў пачаты збор подпісаў пад зваротам да Прэзідэнта Беларусі. У звароце гаворыцца: "Мы, беларусы Даўгаўпілса, занепакоены тым, што адбываецца прыцясненне нашых правоў і свабод пры наведванні нашай этнічнай Радзімы маці Беларусі. Каб наведаць сваіх старых хворых бацькоў, прывесці ім лякарства, нарыхтаваць на зіму сена і дроў, трэба плаціць за візу, за экалогію, за дарогу, за час знаходжання ў бацькоўскім доме. Мы ў Латвіі і так пазбаўлены многіх правоў і свабод, што афіцыйна зафіксавана ў заканадаўчых дакументах Латвійскай дзяржавы. Не наша віна ў тым, што нам зараз выдаюць часовыя пасведчанні неграмадзян узамен пашпартоў былога СССР. І па гэтых часовых пасведчаннях нам забаронены зараз свабодны ўезд у Беларусь. Больш таго, з нас патрабуюць візы, якія каштуюць немалых грошай.

Спадар Прэзідэнт, у Вас таксама ёсць бацькі і дзеці, не дапусціце, каб для нас, беларусаў Латвіі, якія апынуліся за мяжой, Беларусь стала не маці, а мачахай".

Генеральны консул Рэспублікі Беларусь у Даўгаўпілсе Анатоль Жалтоўскі, выступаючы перад пікетчыкамі і па мясцовым тэлебачанні, запэўніў, што зробіць усё магчымае, каб аблягчыць становішча сваіх суайчыннікаў. Абяцанае не заставіла сябе доўга чакаць: нядаўна ў даўгаўпілскай прэсе з'явілася паведамленне, што на сустрэчы з беларускімі і латвійскімі пагранічнікамі спадаром А.Жалтоўскім была дасягнута дамоўленасць, каб прадоўжыць бязвізавы праезд, штампы аб перасячэнні мяжы ў "чырвоных" пашпартах будуць ставіцца і на іншых чыстых старонках, акрамя адведзеных для адзнак аб прапісцы. Але гэта "зробіць надвор'е" не надоўга для тых, каму неабходна чым часцей наведваць радзіму. Як, напрыклад, сябру рады беларускага таварыства "Уздым" Т.Бучэль, чыёй дапамогі чакае маці, якая перанесла два прыступы інсульта...

Таму беларусы Латвіі спадзяюцца, што Прэзідэнт Беларусі сумесна з Кабінетам Міністраў Беларусі прымуць адзінае правільнае рашэнне пакінуць свабодным, бязвізавым уезд у Беларусь і для тых, хто атрымаў ці атрымае часовае пасведчанне неграмадзян. Бо "на чужым горы — не разбагацееш" — як было напісана на адным з плакатаў пікетчыкаў. Другі плакат заклікаў браць прыклад з Расіі, якая ўстанавіла бязвізавы льготны рэжым перасячэння граніцы для сваіх суайчыннікаў, уладальнікаў часовых пасведчанняў неграмадзян.

**Станіслаў ВАЛОДЗЬКА,**
**сябар Рады Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына".**
Даўгаўпілс.




**НА ЗДЫМКУ:** адзін з плакатаў на пікеце.

ВОДГУЛЛЕ

# БЕЛАРУСЫ МУСЯЦЬ ГАВАРЫЦЬ ПА-БЕЛАРУСКУ

Паважаная рэдакцыя!

Прачытаў пісьмы двух беларусаў: К. Якуба з Амерыкі "Чужымі рукамі можна і жар заграбаць" і О. Буткевіча з Англіі "Суайчыннікі і соотечественники". Хацеў бы даць адказ абодвум праз "Голас Радзімы".

Чаму Буткевіч робіць розныя нападкі на беларусаў і беларускую мову? Ён не хоча, каб Беларусь была Беларуссю, і расхвальвае двухмоўе. Мне ўспамінаецца здарэнне, якое было ў Польшчы, калі ў горадзе Гданьску немцы правялі "рэферэндум" і горад Гданьск на польскай зямлі стаў гаварыць па-нямецку, бо большасць горада была немцы. Ды і ў Беларусі расейцы праз гады няўпынна русіфікавалі беларусаў, а цяпер вымагаюць, каб Беларусь стала двухмоўнай. Ці ведае Буткевіч, што і да рэвалюцыі і пасля рэвалюцыі людзей, якія змагаліся за незалежную Беларусь і беларускую мову, строга каралі, садзілі ў турмы або вывозілі ў Сібір на цяжкія работы? Што мільёны людзей згінулі на Беларусі, як толькі пачалі дапучаць беларускія землі да Расіі. Вось Буткевіч піша, што Сталін далучаў, ні пытаючыся нікога, да Беларусі землі ў 1924—1926 гадах. А чаму не ўспамянуў, якія землі Сталін адлучыў ад Беларусі? Нават Гарбачоў згадаў для летувісаў, як яны адлучаліся ад Савецкага Саюза, што Віленшчына і Вільня беларускія. Мой бацька ў 1914 годзе хадзіў у школу, дык казаў, у школе вучылі яшчэ, што Беларусь мае сем губерняў, а Расія чатыры. Праз доўгія гады ўладарання Расіі Беларусь усцяж губляла сваю тэрыторыю. Буткевіч хваліць сымбалі савецкія, якія ўвялі нядаўна ў Беларусі. Гэта ганьбаванне нашых старадаўніх адзнакаў Пагоні і белчырвона-белага сцяга, на ягоную думку, добрая справа. Чаму тады расейцы вярнулі стары сцяг і двухгаловага арла, чаму не ўзялі савецкую сымболіку? Калі б Буткевіч пісаў пра беларусаў у Сібіры ці ў Карэліі, дык там можа і было б успрынята больш-менш нармальна двухмоўе, бо людзі забылі сваю мову і не было там дзе вучыцца беларускай мове.

Савецкі сцяг і герб сведчаць пра тое, што беларусы ёсць нявольнікі былой савецкай імперыі. Беларуская мова мусіць мець тыя правы, што расейская ў Расеі. А цяпер дзе ні пойдзеш, усюды ў Беларусі першую песню пяюць па-расейску, першую прамову гавораць па-расейску. Гэтым мы самі паніжаем беларускае на сваёй зямлі, беларускае заўсёды на другім месцы. Трэба беларусам усвядоміць, што найперш беларускае павінна быць, а потым ужо і загранічнае.

Не магу пагадзіцца са сцвярджэннем К. Якуба, што калгасніку адной мовы досыць — беларускай, калі хваліць двухмоўе, якое ўводзяць у Беларусі. Беларуская мова — славянская мова і можа на беларускіх землях закрасаваць. І не будзе перашкаджаць расейскай мове. У Беларусі будуць школы з іншымі мовамі, але для дзяржаўных устаноў і для дзяржавы беларуская мова павінна быць абавязковай.

У Беларусі карэнны народ беларускі, дык і мова Беларусі мусіць быць беларускай. Каб беларусы чуліся вартым гонару свайго краю і паходжання. Трэба зірнуць і ў рэлігійны бок: у беларусаў царква русіфікуе, а касцёл паланізуе. Гэтак было пасля падзелу ў 1918 годзе, а цяпер трэба, каб было ўсё на роднай беларускай мове.

**К. ВЕРАБЕЙ.**
ЗША.

Сяргей ПЯСЕЦКІ

# "КАХАНАК ВЯЛІКАЙ МЯДЗВЕДЗІЦЫ"




Ня мог зразумець, што здарылася! Чаму пытаньне пра здароўе Гэлі так моцна ўсіх узрушыла? Нарэшце Юзік выціснуў зь сябе:

-- Дык ты... Сапраўды ня ведаеш?

-- Ня ведаю... А што здарылася?

-- Няма Гэлі, -- адказаў Юзік, сьхіляючы галаву. -- Няма... Няма Гэлі...

-- Памерла?

-- Не...

Юзік пакруціў галавой, нібы ў задышцы, пасьля чамусьці падняўся зь месца і вельмі ціха вымавіў:

-- Засіпілася...

-- Засіпілася?

-- Так... На грушцы...

Быў уражаны гэтай навіной. Адчуў, як у мяне аслаблі ногі. Раптоўна, -- ня ведаю чаму, -- прыгадаўся такі малюнак: Гэля стаіць на драбінцы ў садзе і абірае яблыкі, а Альфрэд, франтаваты, з лясачкай у руцэ стаіць і прыглядаецца да яе. Нешта кажа дзяўчыне. Гэля чырванее. Затым Альфрэд выцягвае руку і праводзіць далонёй па Гэлінай лытцы.

-- Чаму яна гэта зрабіла? -- запытаўся ў сябра.

Юзік доўга глядзіць мне ў вочы. Бачу, што ён не разумее пытаньня. Паўтараю.

-- Чаму?.. -- глуха кажа Юзік. А пасьля хутка кідае: -- Бо была цяжарная!.. Вось чаму!..

-- Ага!

-- Так! Зацяжарала і баялася, што панясуць на языках!.. Ох, якая дурная!.. дурная... Пакуль я жывы, ніхто яе не пакрыўдзіў бы... а яна!..

Позна ўвечары я вяртаўся дахаты. Юзік прапанаваў і далей жыць у яго, але я адказаў, што параюся зь Петрусём і Юлікам. Мне было вельмі дрэнна. Адчуваў, як у маёй душы ўзрастае ўсё большая нянавісьць да Альфрэда. Крочыў, задумены, і ня ведаю, калі зьбіўся з патрэбнай дарогі. Затрымаўся непадалёку ад нейкай хаты. "Дзе я знаходжуся? -- падумаў. -- Ага, тут жыве Ёська Гусяр!" Падышоў да дзьвярэй хаты і загрукатаў клямкай. Праз хвіліну з сенцаў даляцеў Ёськін голас:

-- Ну, хто там?

-- Я... Уладак...

-- А!.. Зараз...

Сьпяшаючыся, адчыніў дзьверы і ўпусьціў мяне ўсярэдзіну. Убачыў на стале нейкую габрэйскую кніжку; на ёй ляжалі акуляры ў касьцяной аправе.

-- Можа, вып'еш? -- запытаўся Ёська. -- Маю добрую вішнёўку. Жончына работа... У яе залатыя рукі!.. Ай, якія ў гэтай жанчыны рукі!.. Дыя-мента-выя!..

Гусяр прынёс графінчык вішнёўкі, і мы выпілі некалькі кілішкаў. Жыды ня любяць піць шклянкамі. Пасьля пачалі размаўляць на ўсялякія тэмы. Пра маю засыпку Гусяр ведаў.

-- Хтосьці нас лягнуў у Бамбіны, -- прамовіў я. -- Інакш самі ніколі б не патрапілі на мяліну!.. Была засада... Зрабілі не на "пэ"!.. Разумееш?

-- Гэта яго работа! -- адказаў зь вялікім перакананьнем Ёська.

Ні імя, ні прозвішча Альфрэда Ёська не назваў, але я добра ведаў, на каго ён думае.

-- Кажаш, яго работа?

-- Яго. Каб я шчасьце так меў! Каб я так жонку і дзяцей бачыў!.. Яго!..

Ёська замоўк. Я таксама маўчаў. Цягнулася гэта доўга. Пасьля нечакана для сябе прамовіў:

-- Мне патрэбна машына.

Ёська зірнуў на мяне.

-- Машына?

-- Так. Хачу набыць добры капыт. Такі, на 102! Каб быў надзейны...

Вочы ў Ёські блiснулі.

-- Я разумею цябе...

Ён пачаў грунтоўна разважаць зь веданьнем вартасьцяў і недахопаў розных сістэм стралковай зброі. Я перапыніў тую лекцыю.

-- Разьбіраюся ў гэтых цацках, -- прамовіў я. -- Хачу мець добры наган. Аўтамат мне не патрэбны, ваяваць не зьбіраюся. А наган -- гэта найлепшы комін.

-- Так, так... самы пэўны... Ведаеш што? Ты пачакай крыху. Выпі яшчэ вішнёўкі.. Жонка зрабіла... Дыяментавыя, кажу я табе...

-- Ведаю, ведаю: рукі.

-- Так. А я зараз.

Ёська выйшаў з хаты.

Ня ведаю, чаму вырашыў набыць рэвальвер менавіта тады, калі даведаўся пра самагубства Гэлі. Праўда, мне заўсёды не падабаўся Альфрэд, аднак ніколі ня думаў пра тое, каб забіць яго. Быў далё[illegible] гэтай думкі. І нават цяпер, [illegible]ляючы рэвальвер, разлічваў, што неўзабаве пачну займацца перамытніцтвам. Яшчэ знаходзячыся ў ЧК і Допры, [illegible]ашыў, калі ўцяку і зноў бу[illegible] хадзіць за граніцу, дык толькі так, як Алінчукі... са зброяй. Ведаў, што Альфрэд не праміне выпадку, каб мне нашкодзіць, і ўжо пару разоў гэта зрабіў, аднак забіваць яго?.. Ніколі пра гэта ня думаў. Проста агіднай была для мяне думка -- забіць чалавека!.. Што-небудзь іншае ўтварыць: выкінуць нейкую штуку, але не забіваць.

Гусяр хутка вярнуўся. Замкнуў дзьверы. Праверыў, ці добра занавешаны фіранкі на вокнах, і толькі тады выняў з бакавой кішэні паліто закручаны ў паперу і шмат разоў перавязаны аборкай скрутак. Сьцізорыкам перарэзаў шнурок, разгарнуў паперу. Паказаўся аксідаваны з матавым бляскам наган. Гэта быў афіцэрскі "самаўзвод". Гусяр некалькі разоў пацягнуў затвор -- курок падымаўся і з сухім трэскам ападаў уніз.

Я агледзеў рэвальвер. Быў новы і чысты. Спрацоўваў бездакорна. Яго прыемна было трымаць у руцэ. Гусяр убачыў, што зброя мне спадабалася, усьміхнуўся, цмокнуў коньчыкі пальцаў і вымавіў:

-- Руля як газіньнік!.. Сем ілбоў пэўных!..

-- А набоі?

Гусяр выняў з кішэні дзьве кардонныя скрыначкі з патронамі.

-- Тут 50. Калі табе трэба будзе болей, прыйдзі да мяне. Можна купіць і тысячу.

-- Колькі табе павінен?

-- Столькі, колькі мне каштуе. Я не гандляр.

-- Дык колькі?

-- Дзесяць рублёў.

-- На пятнаццаць.

Даў яму 15 рублёў, але Гусяр вярнуў пяцірублёўку.

-- Кажу, што не хачу на табе зарабляць! Калі б ты ня меў грошай, аддаў бы машыну задарма.

Разьвітаўся зь Ёськам. Калі быў ужо ў сенцах, прамовіў:

-- Ты ня думай, што гэта я для Альфрэда падрыхтаваў.

-- Я пра гэта зусім не кажу.

-- Гэта для таго, каб у Саветах ня трапіць у рукі гадам. Хамы любяць рабіць на нас засады і часам могуць укакошыць.

-- Так, так... Ведаю пра гэта, -- адказаў Гусяр, адчыняючы мне дзьверы на падворак.

-- Дабранач! -- прамовіў я. -- А вішнёўка ў цябе добрая!

-- Шчасьліва! -- адгукнуўся Гусяр. -- Гэта жонка. Дыя-мента-выя ручкі...

Я пакрочыў цёмным завулкам. У галаве шумела ад вішнёўкі. У пэўным месцы спыніўся. Агледзеў неба. Знайшоў Вялікую Медзьведзіцу. Дастаў з кішэні наган і зарадзіў. Прыемна было трымаць у далані выгнутую шурпатую ручку рэвальвера. Жмурачы левае вока, цэліўся ў паасобныя зоркі. Раптам расьсьмяяўся. У галаву зьявілася думка, што зараз у мяне два найлепшыя сябры: Вялікая Мядзьведзіца -- з сямі зорак, што ня раз дапамагалі мне ў дарозе, паказваючы сапраўдны напрамак, і наган, зараджаны на сем патронаў, якія пры патрэбе надзейна мяне абароняць!

Будучы ў Допры, чуў ад злачынцаў, што лічба сем -- гэта зладзейская шчасьлівая лічба. Магчыма, такая думка ўзьнікла таму, што лічба 7 сваім выглядам нагадвае адмычку.

## 7

Нас адзінаццаць. Звычайная вялікая група перамытнікаў. Ідзём лесам у зялёным паўзмроку, па мяккіх імшарах, як па дне мора. Пракрадаемся паміж дрэў без шуму — нібыта здані. А ўгары таксама ціха пракрадваюцца хмары... Пусьцілі ўперад "на зман" малую лёгкую аблачынку і плывуць усьлед усёй навалай.

Юрлін ступае першы. Крочыць памалу, крыху пераваліваючыся зьлева направа. Вачыма рысі агледае перад сабой абшар. За ім пасьпяшае Лорд. Ідзе лёгка, як па паркеце. Кідае позіркі ўправа і ўлева. За імі -- двума слыннымі машыністамі -- іду я. За мной -- уперавалку Шчур. Ён увесь час усьміхаецца. Магчыма, нешта прыпомніў: якую-небудзь агранду або абдумвае агранду. Далей валіць Камета. Распусьціў чорныя вусы па ветры і размашыста крочыць наперад. За ім пнецца Соня, жонка Юрліна. Знарок пускаем яе пасярэдзіне групы, там самае бясьпечнае месца. Жанчына ступае дробным, але ўпэўненым крокам. Яна прызвычаена да такіх падарожжаў, ужо другі год чапае з мужыком. За Соняй -- дае шлапака Ванька Бальшавік. Ідзе, загледзеўшыся на яе лыткі: вывучае, як з выклікам калыхаюцца клубы жанчыны. У яго галаве рояцца ўсялякія эратычныя малюнкі, і часта, праз няўвагу, ламае ботамі сухое гальлё. Тады Шчур паварочвае галаву і, робячы пагрозьлівы выгляд на твары, паказвае яму кулак. У гэты час Ванька бурчыць:

-- Аглядаецца, нібы кабыла на ваўка!

За Ванькам -- Смактун, вясёлы, смешны і прасьціякаваты хлапчына. Вельмі ня любіць, калі яго клічуць Смактуном. Такую мянушку атрымаў у наступнай прыгодзе. Аднаго разу пайшоў "на ўласную руку" за мяжу. Тавар меў незвычайны -- некалькі тысяч дзіцячых смактуноў-сосак. Зрабіў сабе пераваз: пананізваў аборкамі смактункі на шнуркі і надзеў усё пад куртку.

Было гэта ўлетку. За ноч хлопец не пасьпеў дабрацца да мяліны. На дзень прыхаваўся ў жыце. Абрыдла там сядзець, і пачаў пракрадацца палеткамі. Яго заўважыў кавалерыйскі патруль. Салдаты хацелі затрымаць, але ён, як шчупак у ваду, даў ны[illegible] ў жыта. Вылавілі пасьля [illegible]нага шчыраваньня і здратаваньня значнай плошчы збажыны. Салдаты зьбілі яго і пачалі [illegible]укваць. Ён скінуў куртку [illegible]іць перад імі ўвесь у смактунках, нібы ў ордэнах. Бальшавікі грымнулі сьмехам. Пасьля адзін зь іх вымавіў:

-- Ведаеце што, таварышы! Такога спекулянта ня варта затрымліваць!

Другі далучыўся да яго:

-- Хай нясе. Малым камунарам будзе забава!

І адпусьцілі. Нават тавар не забралі. Пасьля вяртаньня ў мястэчка хлопец расказаў пра гэты выпадак сябрам, не мяркуючы, што стане прадметам жарцікаў і кпінаў. Ад гэтага часу ўсе ў мястэчку зьвярталіся да яго: Смактун.

За Смактуном крочыць Лявон Юбін. Хлопцы дражняць яго Кавалерчыкам -- ён любіць фліртаваць зь дзяўчатамі і заўсёды сядзіць у іх кампаніі на вячорках. За мяжу Юбін ходзіць зрэдку -- калі выпіхвае бяда. Хлопец баіцца такіх падарожжаў. За Юбінам элеганцкім крокам, у элеганцкіх ботах і нагавіцах ідзе Алігант. Каб надта не адрозьнівацца ад астатніх, апрануў толькі паношаную шапку і куртку. У канцы групы валачыцца суправаджаючы Гірш Кнот -- маладжавы таўставаты жыд. У яго слабы зрок, і нададатак ён палахлівы, таму ўсьцяж прыплюшчвае вочы і азіраецца па баках. Няўручна яму пасьпяваць за групай і боязна застацца далёка ад яе: каб там што-небудзь з хмызоў ня выскачыла -- ну, бо гэта ж лес! Таму, калі заўважае, што адстаў на некалькі крокаў ад групы, пачынае бегчы, сьмешна перабіраючы кароткімі нагамі і выціраючы насоўкай спацелы твар. Аднойчы Лорд азірнуўся і заўважыў, што Гірш абцірае чало. Падышоў да яго.

-- Хочаш у морду атрымаць?

-- Ну, што?.. Чаго лезеш?

-- Зараз жа схавай насоўку!.. Белая пляма ў лесе за кіламетр відаць. Калі патрэбна табе, бяры жаўтаватую ці зялёную.

Ношкі маем па 45 фунтаў. Толькі Соня нясе трыццаціфунтовую. Тавар не дарагі, аднак добра ідзе ў Саветах: люстэркі, сьцізорыкі, пацеркі, іголкі, грабеньчыкі, напарсткі, брытвы, памазкі для галеньня. Зарабляем таксама, як на дарагім тавары -- 15 рублёў ад ношкі. Тавар належыць Рыве Глянц і Фэйзе Ядвабнай, якія супольна трымаюць крамку на рынку.

Жонка Юрліна, Соня, мае 30 гадоў, а выглядае нашмат маладзей. У яе круглы вясёлы тварык, блакітныя вочы, вішнёвыя вусны, сьветлыя валасы і ямка на падбародку. Дастаткова прывабная. Юрлін чамусьці лічыць яе за вяршыню прыгажосьці і бярэ ў дарогу не дзеля большага заробку, а таму, што вельмі раўнівы -- баіцца пакідаць яе дома. Ведае: Соня валодае агністым тэмпераментам і хуткім да здрады сэрцайкам, у той жа час у ёй самой няма належнай пашаноты да шлюбнай вернасьці. Вось чаму ён жадае заўсёды мець яе на воку.

Па дарозе час ад часу я засоўваю руку ў бакавую кішэню курткі і з прыемнасьцю моцна сьціскаю шурпатую ручку нагана. Нікому з хлопцаў не казаў, што бяру з сабой рэвальвер. Ведаю: баяцца хадзіць са зброяй -- у Саветах узброеных перамытнікаў караюць вельмі сурова. Некалькі разоў здаралася, што ім "шыпі" бандытызм і "пускалі ў расход". Гэта мая таямніца, якую нікому вырашыў не адкрываць. Я жадаю ў выпадку засыпкі ў Саветах змагацца і адбівацца альбо загінуць, чым зноўку цярпець голад, карміць вошай у Чрэзвычайцы ці Допры. А што чакала б мяне далей -- на працягу трох гадоў высылкі, якіх я здолеў пазьбегнуць?

Зараз ночы кароткія, таму не пасьпяваем за адзін пераход дабрацца да мяліны і звычайна робім на шляху днёўку. Пункт, да якога накіроўваемся, знаходзіцца ў 25 кіламетрах за граніцай на паўночным усходзе ад Старога Сяла. Стараемся крочыць па лесе, толькі ў крайнім выпадку выходзім на поле. Юрлін вядзе групу дасканала: не трымаецца ніякіх дарог, ні сьцежак і, здаецца, прастуе нацянькі.

Перачакаўшы дзень у лесе, нарэшце, у наступную ноч, дабіраемся да вялікага сада. Юрлін адсоўвае набок адну дошку ў плоце, і мы праз дзюрку ўлазім у сад, пасярод якога знаходзіцца вялікая адрына. Уваходзім усярэдзіну.

Юрлін і Лорд ідуць на хутар. Праз квадру гадзіны вяртаюцца і пачынаюць выносіць ношкі, беручы адразу па дзьве. Тры разы робяць гэты паход. Мы ўсе кладземся спаць. Соня сьпіць у куце будынка разам зь Юрлінам. Гірш Кнот таксама сьпіць у адрыне.

## 8

Надышоў жнівень. Набліжаўся залаты сезон. На ўсёй граніцы запанаваў рух. Перамытнікі выходзілі ў дарогу часьцей і ў больш шматлікім складзе. Я працягваў фартаваць у групе Юрліна. Увогуле, хадзілі мы шчасьліва. Пару разоў зялёнкі пагналі нас, аднак ніхто не папаўся. Шчур вырашыў зрабіць жыдоўкам агранду, але Лорд не згаджаўся, тавар быў дрэнны -- агранда не аплацілася б.

Працаваць зараз было цяжэй, чым раней. Граніцу прыняла пад ахову паліцыя. Баоны мытныя зьліквідавалі. Як толькі паліцэйскія пачалі выконваць свае абавязкі па ахове граніцы, пачаліся канфлікты з савецкімі салдатамі, якія з бааняpамі жылі ў згодзе: хадзілі па адной сьцежцы, часта сустракаліся і размаўлялі. Зараз на граніцы ўсё часьцей гучалі стрэлы. Бальшавікі стралялі ў нашых пагранічнікаў і ўчынялі ім розныя псоты. Паліцэйскіх, якія ахоўвалі граніцу, чырвонаармейцы называлі "чорныя вораны" і "чорная сотня".

**Працяг.**
**Пачатак у №№ 29—46.**

*НАТАТКІ З СУСВЕТНАГА КАНГРЭСА Ў БРАЦІСЛАВЕ*

# ШТО ЗА ЦУД ГЭТЫЯ ЦЫМБАЛЫ!

З 18 па 22 кастрычніка гэтага года ў Браціславе праходзіў трэці сусветны кангрэс цымбалістаў, куды сабраліся лепшыя з лепшых выканаўцаў на гэтым цудоўным інструменце. Беларусь на ім прадстаўлялі Таццяна Шумакова, Вольга Мішула, ансамбль цымбалістак пад кіраўніцтвам прафесара, заслужанага артыста Рэспублікі Беларусь, загадчыка кафедры струнных народных інструментаў Беларускай акадэміі музыкі Яўгена Гладкова, а таксама ансамбль аўтэнтычнага фальклору "Ліцвіны", які знайшоў магчымасць узяць з сабою журналіста. Трэба адразу сказаць, што "Ліцвіны" трапілі ў Браціславу дзякуючы дапамозе Фонду Сораса і фірмы "Інтэртур", якая вельмі хутка адгукнулася на просьбу артыстаў і прадаставіла ім мікрааўтобус, на якім мы і вандравалі.

Шлях у Браціславу быў цяжкім і складаным. Грамадзян былога Савецкага Саюза на дзяржаўных межах іншых краін, як і раней, сустракаюць без усялякага энтузіязму. Дастаткова сказаць хаця б аб тым, што беларускі нацыянальны інструмент "дуда" выклікаў такую пільную ўвагу мытнікаў транзітных дзяржаў, што яго ўладальніку, кіраўніку калектыву Уладзіміру Бербераву, давялося іграць на ім для супрацоўнікаў усіх мытняў. Аднак, нягледзячы нават на імправізаваны канцэрт, які музыканты далі на польска-славацкай мяжы, прапускаць нас на тэрыторыю Славакіі не спяшаліся, і таму ансамбль нават спазніўся на канцэрт, які адбыўся ў вечар адкрыцця кангрэса. Пасля доўгай дарогі па неверагодна прыгожых серпанцінах Закапанэ і Татраў мы ў рэшце рэшт трапілі ў Браціславу, і вельмі хутка артысты ўжо ўключыліся ў работу. Акрамя выступленняў творчых калектываў і салістаў, кангрэс уключаў у сябе чытанне дакладаў на тэмы, звязаныя з гісторыяй цымбалаў, аб асаблівасцях цымбальнай музыкі -- словам, усім, што звязана з гэтым інструментам. Чытаў свой даклад аб асаблівасцях беларускіх цымбалаў і кіраўнік "Ліцвінаў" Уладзімір Бербераў. Трэба адзначыць, што такая, на першы погляд, вузкая тэма зацікавіла многіх замежных спецыялістаў, па просьбах якіх чытанне даклада было прадоўжана на наступны дзень. Пры гэтым хочацца заўважыць, што даклад Уладзімір Бербераў чытаў на выдатнай англійскай мове.

Увесь час, пакуль працаваў кангрэс, у холе браціслаўскага Дома культуры стаялі цымбалы, на якіх маглі іграць усе ўдзельнікі. І яны з вялікім задавальненнем карысталіся такой магчымасцю. Стыхійна ствараліся дуэты, трыо, нават квартэты з музыкаў розных краін і нацыянальнасцей, якія размаўлялі на розных мовах і нават не заўсёды разумелі адзін аднаго, але гэта не перашкаджала ім знаходзіць агульную мову — мову музыкі, калі яны пачыналі разам іграць. Шчыра кажучы, раней я ставілася да цымбалаў як да нейкага другараднага музычнага інструмента, займацца якім можна выключна на аматарскім узроўні. "Што за цуд гэтыя цымбалы!" -- гавару я зараз, ведаючы, што цымбалы ў руках прафесіянала заварожваюць не менш, чым, напрыклад, скрыпка (дарэчы, на заключным вечары на цымбалах выдатна выконваліся фрагменты канцэрта Паганіні). Інакш і быць не можа, калі збіраюцца разам людзі, якія робяць сваю справу лепш за ўсіх у свеце. У гэтым яшчэ раз можна было ўпэўніцца, калі пасля заключнага канцэрта і банкета цымбалісты арганізавалі джэм-сэйшн, на якім ігралі і джаз, і біт, і рок, і класіку, прычым, зусім не абавязкова цымбальную. Нічога больш цудоўнага, чым песні "Бітлз", выкананыя на цымбалах, мне чуць не даводзілася.

Дарэчы, калі хто-небудзь лічыць цымбалы беларускім нацыянальным інструментам, спяшаюся паведаміць, што



сваім нацыянальным інструментам іх лічаць таксама галандцы, немцы, румыны, іранцы, славакі і нават японцы. Праўда, трохі адрозніваюцца інструменты, на якіх іграюць прадстаўнікі розных нацыянальнасцей. Цяжка нават параўнаць лёгкія, невялікія і зграбныя беларускія цымбалы, якія салістка "Ліцвінаў" трымала ў час канцэрта на каленях, з, напрыклад, румынскімі цымбаламі -- вялікім і складаным інструментам, упрыгожаным цудоўнай разьбой па дрэву, якія, на погляд прафесіянала, па знешняму выгляду і па гучанню нагадваюць сапраўдны раяль.

Напэўна, самай цікавай падзеяй кангрэса быў заключны гала-канцэрт, які здымала Браціслаўскае тэлебачанне. Здзіўляла усё -- ад будынка тэлестудыі, які нагадваў велізарную піраміду, пастаўленую дагары нагамі на востры вугал, да нязвыкла зладжанай і дакладнай работы супрацоўнікаў мясцовага тэлебачання, якія запісвалі ўсё адразу і без дубляў. Ах, як дзіўна выглядалі "Ліцвіны" на гэтай сцэне! З бляскам адыгралі яны сваю праграму і пакідалі здымачную пляцоўку пад авацыі ўдзячнай публікі. Увогуле, беларусы на гала-канцэрце выступілі выдатна. Варта толькі сказаць, што ансамбль цымбалістак пад кіраўніцтвам прафесара Гладкова быў адзіным калектывам, які ў парушэнне ўсіх умоў канцэрта і просьб яго арганізатараў гледачы проста не адпусцілі са сцэны, пакуль яны не выканалі яшчэ некалькі незапланаваных нумароў. Калі гучалі бясконцыя апладысменты ў адрас нашых суайчыннікаў, я адчувала сапраўдны гонар за тое, што я таксама беларуска, і адначасова думалася, чаму, каб усвядоміць сябе патрыётам, трэба перасячы некалькі межаў і трапіць у іншую краіну? Вынікам поспеху -- чытай: трыумфу беларусаў было тое, што наступны, чацвёрты міжнародны цымбальны кангрэс вырашана правесці ў Мінску. Праўда, пры гэтым многія будучыя ўдзельнікі перад галасаваннем задавалі пытанне: "А дзе знаходзіцца гэтая рэспубліка?" На што даводзілася цярпліва тлумачыць, што гэта такая краіна, якая месціцца паміж Польшчай і Расіяй. Упэўніўшыся, што гэта не ў Сібіры, усе ахвотна прагаласавалі "за". Так што праз год цымбалісты з усяго свету збяруцца ў Мінску, і мы станем сведкамі свята музыкі.

Ансамбль "Ліцвіны" на кангрэсе карыстаўся асаблівым поспехам, бо ён не толькі вельмі таленавіты, але быў і самым экзатычным калектывам. На маё пытанне, ці зрабіла дзяржава хаця б што-небудзь дзеля таго, каб гэты калектыў трапіў на кангрэс, Уладзімір Бербераў адказаў:

-- Не, нічога. Але мяне здзівіла б, калі б атрымалася наадварот. Вельмі доўга мы існавалі — як ні дзіўным гэта можа падацца -- у якасці андэграўнднай музыкі. Так, аказваецца, і народная музыка можа існаваць у такой якасці. Мы і зараз, здаецца, з гэтага падполля канчаткова не выйшлі. Таму абураемся няўвагай дзяржавы да нас.

Дамоў памежнікі прапускалі нас больш ахвотна, а можа, дапамаглі афішы кангрэса, якімі мы абклеілі наш аўтобус. "Цымбалісты?" -- запыталіся славацкія мытнікі і без дагляду прапусцілі праз мяжу. Наша ж дзяржаўная мяжа сустрэла забастоўкай вадзіцеляў грузавых аўтамабіляў. Побач з нашым аўтобусам стаяў пыльны "Ікарус", поўны стомленых "чаўнакоў" і танных грузаў, на якім нехта напісаў: "Я хачу дамоў..." У гэты момант мы былі цалкам згодны з крыкам душы адзінокага "чаўнака". Мяжу мы перасякалі з крыкам: "Ура!.."

Сёння ансамбль "Ліцвіны" можна з поўным правам назваць нацыянальным набыткам Беларусі, які трэба берагчы і падтрымліваць. Яго і падтрымліваюць Фонд Сораса, фірма "Інтэртур", іншыя дабрадзеі.

**Вераніка ЧАРКАСАВА.**

# МІЖВАЕННАЯ БЕЛАРУСІЗАЦЫЯ: ЗНЕШНІ АСПЕКТ

**[Працяг. Пачатак на 1-й стар.].**

І такое сапраўды адбывалася. Адчувальныя вынікі нацыянальна-культурнага Адраджэння намеціліся ўжо праз год--два пасля абвяшчэння беларусізацыі дзяржаўнай палітыкай. А праз пяць гадоў беларусізацыі ў жыцці нашага народа адбыліся такія карэнныя пазітыўныя зрухі, што яны, з аднаго боку, прымусілі паверыць у нацыянальнае адраджэнне нават самых закаранелых песімістаў, а з другога -- далі сабою запалохаць тых высокіх палітыкаў, хто ад самага пачатку не быў зацікаўлены ў давядзенні беларусізацыі да яе лагічнага канца. Таму няма сёння падстаў крытыкаваць беларусізацыю за сам тэрмін ці за той заняпад, да якога яна прыйшла на дзесятым годзе сваёй гісторыі. Пры яе ацэнцы трэба браць не другое, а першае пяцігоддзе (1925--1929 гады). А яму ж не было роўнага пяцігоддзя за ўсё XX стагоддзе і нават тыя пяць гадоў, што мінулі пасля прыняцця 26 студзеня 1990 года Закона аб мовах.

Найлепшым пацвярджэннем прагрэсіўнасці такой з'явы, як беларусізацыя, з'яўляецца яе станоўчы ўплыў на беларусаў блізкага і далёкага замежжа. На першапачатковым этапе беларусізацыі і трохі пазней наш край яшчэ не быў адгароджаны жалезнай заслонай ад іншых краін. Пра ўсё станоўчае і кепскае, што ў ім рабілася, вельмі добра ведалі нашы суродзічы, што па самых розных прычынах апынуліся па-за межамі сваёй Бацькаўшчыны. Яны шчыра радаваліся яе поспехам у нацыянальна-культурным Адраджэнні і, наколькі дазвалялі ўмовы, імкнуліся самі будаваць сваё жыццё ў адпаведнасці з уласнымі гістарычнымі, духоўнымі і сямейна-бытавымі традыцыямі.

Зразумела, найбольшы рэзананс беларусізацыя атрымала ў суседніх нам краінах, асабліва ў тых, якія ўключалі ў свае дзяржаўныя межы беларускія этнічныя тэрыторыі. Пераканаўча пацвярджаецца гэта прыкладам Латвіі, дзе да таго ж яшчэ жыло і нямала апантаных беларускай нацыянальнай ідэяй людзей. Пачатак ажыццяўлення беларусізацыі ў нашай рэспубліцы супаў з вельмі цяжкімі падзеямі ў лёсе латвійскіх беларусаў. З мая 1924 па красавік 1925 гадоў тут без усялякіх падстаў вёўся "Беларускі судовы працэс", па якім праходзілі такія выдатныя нашыя змагары за нацыянальную ідэю, як К.Езавітаў, У.Пігулеўскі, І. Краскоўскі, П.Мядзёлка-Грыб, П.Жэрдзі і інш. Абвінавачванні выстаўляліся вельмі сур'ёзныя -- аж да намераў адарваць і далучыць да савецкай Беларусі шэраг паветаў Латвіі, дзе спрадвеку жылі беларусы. Пакуль цягнуўся "Беларускі судовы працэс", згарнулі ці цалкам спынілі сваю дзейнасць некаторыя беларускія культурна-асветніцкія арганізацыі, у тым ліку і адна з самых важных з іх -- таварыства "Бацькаўшчына" ў Латгаліі.

На шчасце, судовыя органы Латвіі ўсё ж праявілі высокую аб'ектыўнасць і прыйшлі да заключэння, што беларусы не вядуць тут аніякіх антыдзяржаўных падкопаў, і таму дазволілі ім аднавіць усю былую дзейнасць. Адраджалася яна вельмі хутка і была ва ўсім сугучная ідэям беларусізацыі. Ужо ў чэрвені 1925 года ў Рызе пачала выходзіць першая газета латвійскіх беларусаў "Голас Беларуса". У наступным годзе ў сталіцы Латвіі выйшаў беларускі паэтычны зборнік "Першы крок", на які такімі словамі адгукнуўся наш паэт Уладзімір Жылка, што жыў у чэшскай Празе: "Куток беларускага Наддзвіння, апыніўшыся пад Латвіяй, не згублены для беларускай культуры".

Шмат энергіі, жыццёвага вопыту ўклаў у гэтай краіне ў беларускую справу Кастусь Езавітаў, з'яўляючыся ў розныя гады рэдактарам штомесячніка "Беларуская школа ў Латвіі", выдаўцом газеты "Голас Беларуса", кіраўніком Беларускага выдавецтва ў Латвіі, адным з ініцыятараў заснавання "Таварыства беларускіх вучыцеляў у Латвіі", старшынёй Беларускага навукова-краязнаўчага гурта. У розных навучальных установах ён выкладаў беларускую мову, гісторыю, методыкі гісторыі, геаграфіі і малявання. Ён аўтар публікацый: "Беларуская школа" (чытанка), "Рэлігійнае жыццё беларускага народа", "Беларусы ў Літве", "Беларусы ў Латвіі", "Хроніка культурнага жыцця латвійскіх беларусаў", "Справа беларускай асветы і школы ў Літве".

Для пашырэння ідэй беларусізацыі ў Латвіі многае зрабіў наш фалькларыст, этнограф і педагог Сяргей Сахараў. У 1921 -- 1925 гадах ён узначальваў Беларускі аддзел пры Міністэрстве асветы Латвіі, у 1925--1932 гадах -- Дзвінскую беларускую гімназію, у сценах якой узгадавана нямала людзей, што аддана служылі нацыянальнай ідэі на працягу ўсяго свайго жыцця.

Звязанае з беларусізацыяй інтэнсіўнае нацыянальна-культурнае Адраджэнне краю шчыра радавала ўсіх нашых суродзічаў, што па розных прычынах атабарыліся ў прыязнай да нас Чэхаславакіі, у сталіцы якой у той час знаходзіўся эміграцыйны ўрад Беларускай Народнай Рэспублікі. Гэты фактар у многім паспрыяў сцяканню сюды прагрэсіўных сіл беларускай інтэлігенцыі, якую стала цікавілі падзеі на Радзіме. Прага дала таксама прытулак многім членам ЦК Беларускай партыі сацыялістаў-рэвалюцыянераў (БПС-Р), у тым ліку яе лідэру Тамашу Грыбу. Знаходзячыся ў самавыгнанні, ён працягваў цікавіцца станам сваёй партыі, якая дажывала апошнія дні ў савецкай Беларусі. Т.Грыб, не выключаючы сумеснай дзейнасці з камуністамі, усё ж прасіў у сваіх лістах да членаў ЦК БПС-Р, што засталіся ў БССР, не распускаць партыю і не ўваходзіць у бальшавіцкую партыю. На практыцы ж усё атрымалася наадварот.

Апынуўшыся ў Празе, многія нашыя эмігранты ўсёй сваёй практычнай дзейнасцю імкнуліся служыць інтарэсам роднага краю. Гэта мелі на ўвазе і тыя, хто ехаў з Беларусі вучыцца ў добра вядомы ў Еўропе Карлавы універсітэт. Вось па якіх актуальных, накіраваных на нацыянальную ідэю праблемах абаранілі тут нашыя выпускнікі доктарскія дысертацыі: Ігнат Дварчанін -- "Францішак Скарына як працаўнік культуры і гуманіст на беларускім грунце", Янка Станкевіч --"Рэлігійная кніга беларускіх мусульман "Аль Кітаб". Граматычны аналіз мовы", Тамаш Грыб -- "Паляне": пытанне народа і нацыянальнасць. Сацыялагічны аналіз". Сярод тых, хто пасля заканчэння вышэйшых навучальных устаноў Прагі здабыў шырокую папулярнасць, дзякуючы самаахвярнай працы на карысць беларускага народа, можна назваць Уладзіміра Жылку, Вінцэнта Жук-Грышкевіча, Янку Геніюша, Міколу Гарошку, Аляксандра і Пётру Орсаў, Міколу Ілляшэвіча.

Удзячны чэхам за атрыманую ў іх краіне вышэйшую адукацыю, доктар Мікалай Ілляшэвіч паднёс ім у 1930 годзе вельмі добры падарунак: выдаў у Празе першую на чэшскай мове кнігу пра сваю радзіму "Беларусь і беларусы". Яе змест у многім адрозніваўся ад той літаратуры, якую выдавалі ў той

# ЧАРГОВЫЯ КАЛАСАВІНЫ

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

Затым задушэўнае слова пра Коласа, пра яго паэму сказаў народны пісьменнік Беларусі Янка Брыль. Ён прыгадаў сваё юнацтва. Успомніў, як Коласаў твор бударажыў сэрцы юнакоў і дзяўчат у былой Заходняй Беларусі. Паэма і цяпер павінна выхоўваць маладое пакаленне, якому акурат і прысвяціў, як вядома, свой твор песняр.

У канферэнцыі прынялі ўдзел навукоўцы і пісьменнікі, якія гаварылі пра актуальнасць і жыццяздольнасць твораў Коласа, што і сёння вучаць нас любіць і шанаваць родную мову, быць патрыётамі сваёй Бацькаўшчыны. Выступоўцы выказаліся за неабходнасць далейшай глыбокай даследчыцкай работы па вывучэнню творчай спадчыны песняра, а таксама пра стварэнне Фонду Якуба Коласа.

Прыхільнікі паэта мелі магчымасць пабываць на яго радзіме. Першым кутком, куды яны прыехалі, стала Акінчыцкая камора, пра якую пісьменнік напісаў:

**Пры шляху шырокім,**
**Дзе стаіць камора,**
**Я на свет радзіўся**
**Пад глухі шум бору...**

Менавіта адсюль і пачынаецца "Шлях Коласа", на працягу якога стаяць драўляныя скульптуры -- выявы Коласвых герояў. А далей -- "Сцяжына новазямельцаў", якая вядзе ў леснічоўку Альбуць, дзе прайшлі дзіцячыя і юнацкія гады будучага паэта. І зноў міжволі прыгадваюцца радкі песняра

**Люблю я лес, адвечны бор,**
**Дзе ўзносяць хвоі ўгору шапкі,**
**Дзе рассцілаюць елі лапкі**
**І востры верх мкнуць**
**у прастор.**

"У "Аўтабіяграфіі" Якуб Колас пісаў: "Альбуць запомнілася мне найболей яскрава. Там была надзвычай цікавая прырода. Леснікова пасада стаяла на бойкай дарозе, кудою ішлі і ехалі людзі. Многа рознага люду перабывала ў нашай хаце. Нязмоўклыя цікавыя гутаркі новых людзей пашырылі мой запас ведаў аб людзях і наогул аб жыцці і далі мне багаты матэрыял для назірання".

Непаўторная прыгажосць альбуцкай прыроды -- таемны пошум і разнагалосы гоман лесу, што "цягнуўся гожаю падковай" каля "пасады леснічовай", бульканне крынічкі, чароўныя і срэбраводныя хвалі Нёмана -- паланіла ўражлівага Кастуся, клікала ў невядомы вялікі свет.

Як успамінаў Колас у "Аўтабіяграфіі", у Альбуці быў напісаны і першы верш "Вясна", за які бацька даў сыну рубель гасцінца.

У Альбуці працуе філіял музея. Тут жа ў гумне створана выстава, якая знаёміць з рыбалоўствам і пчалярствам як з важнымі заняткамі беларусаў. А цудоўна паведаў пра гэта Юрась Міцкевіч, супрацоўнік філіялаў музея, стрыечны ўнук вялікага песняра.

Далей "Шлях Коласа" ідзе ў Смольню, якая знаходзіцца на беразе Нёмана, недалёка ад Мікалаеўшчыны. Сюды сям'я Міцкевічаў пераехала пасля пажару ў Мікалаеўшчыне. Госці наведалі хату, у якой у 1912 годзе Якуб Колас упершыню сустрэўся з Янкам Купалам. Побач стаіць двухпавярховы дом. Гэта філіял Літаратурнага музея Якуба Коласа. Экспазіцыя яго апавядае пра жыццёвы і творчы шлях народнага паэта. Пераважнае месца ў ёй адводзіцца мясцінам, дзе нарадзіўся і ўзгадаваўся, адкуль пайшоў у вялікую дарогу гэты магутны непаўторны талент.

Тут жа на прыступках экспазіцыйнага будынка выступілі З.Камароўская, пісьменнікі Сяргей Грахоўскі, Вольга Іпатава, Яўген Хвалей. Усюды гасцей весела сустракалі калектывы мастацкай самадзейнасці Стаўбцоўшчыны.

Закончылася свята ўскладаннем кветак да помніка Якубу Коласу ў Мікалаеўшчыне.

**Алена ДРОЗД.**

**НА ЗДЫМКУ: у час навуковай канферэнцыі ў Літаратурным музеі Якуба Коласа. Выступае Л. ПОБАЛЬ.**



час у БССР. Аўтар з адраджэнскіх пазіцый і аб'ектыўна паказаў ролю Беларускага вайсковага з'езда (восень 1917 года), Усебеларускага з'езда ў Мінску ў снежні 1917 года, Слуцкага паўстання ў лістападзе 1920 года. Таму кнігу М.Ілляшэвіча ў штыкі сустрэлі ў савецкай Беларусі. А.Касаніцкі ў кароткай рэцэнзіі на яе пад назвай "Беларуская контррэвалюцыя інфармуе заграніцу аб Беларусі" ("Маладняк", 1930. N 12. С. 149) асабліва востра крытыкуе аўтара за такія словы: "Граніцы чатырох дзяржаў, якія праціналоцца на этнаграфічных землях Беларусі, зьяўляюцца як крывавыя раны на жывым целе, а таму процi гэтага ненормальнага палітычнага зьявішча, якое існуе на ўсходзе Эўропы (г. зн. у СССР і Польшчы. -- **Л.Л.**), беларусы протэставалі і будуць протэставаць". Прывёўшы гэтую цытату, А.Касаніцкі рэзюмуе: "Тут ужо зусім выразна відаць морду беларускага контррэвалюцыянера!" Затое зусім інакш сустрэла кніжку М.Ілляшэвіча чэшская грамадскасць, якая атрымала магчымасць даведацца пра гісторыю і культуру, прыродна-кліматычныя ўмовы БССР, жыццё беларусаў у Польшчы, Літве і Латвіі, прачытаць у перакладзе на чэшскую мову вершы Я.Купалы, Я.Коласа, Ц.Гартнага, М.Чарота, А.Дудара, А.Моркаўкі, прозу Т.Гушчы, казкі А.Сержпутоўскага.

Беларусізацыя самым рашучым чынам паўплывала на ўрадоўцаў БНР. Многія з іх нават выказалі шчырае жаданне вярнуцца ў савецкую Беларусь, каб прысвяціць сябе справе нацыянальнага Адраджэння. У залішняй спешцы, не маючы на тое права, прэм'ер БНР Аляксандр Цвікевіч 4 кастрычніка 1925 года ў час сустрэчы ў Празе з старшынёй Савета Народных Камісараў БССР Язэпам Адамовічам падпісаў акт аб роспуску ўрада БНР. Ужо да канца года з актыўных дзеячаў гэтага ўрада вярнуліся ў БССР А.Цвікевіч, А.Вальковіч, Л.Заяц, У.Пракулевіч і інш. Больш разумную, глыбока ўзважаную пазіцыю ў даным пытанні заняў прэзідэнт рады БНР Пётр Крэчэўскі, вырашыўшы працягваць аддана служыць беларускай справе тут, у Празе, а не на радзіме. І не памыліўся, бо ўсе ўрадоўцы, што прыехалі ў БССР, сталі ахвярамі масавых рэпрэсій 30-х гадоў. Факт самароспуску ўрада Беларускай Народнай Рэспублікі Пётр Крэчэўскі назваў "авантурызмам і падлогам", "здрадай незалежнасці". Такой жа пазіцыі прытрымліваўся і яго пераемнік (Пётр Крэчэўскі памёр у 1928 годзе ў Празе) Васіль Захарка.

У большай ступені пад уплывам беларусізацыі, чым ад уласнага ўсведамлення пачалі далучацца да нацыянальна-адраджэнскай ідэі беларусы, якія жылі ў розных рэгіёнах Расійскай Федэрацыі. Зразумела, першымі прыйшлі ў рух нашыя суродзічы на тых тэрыторыях, якія непасрэдна прылягалі ці недалёка знаходзіліся ад БССР. Да ліку першых адносілася Заходняя вобласць (з 1937 года -- Смаленская), у якой на перыяд Усесаюзнага перапісу насельніцтва 1926 года жыло 83 тысячы беларусаў. У Ленінградскай вобласці тады іх было 55 тысяч, Маскоўскай -- 29, у самой Маскве -- 13, Іванаўскай -- 7 тысяч. Доўгі час, не маючы належных умоваў для прыстойнага нацыянальна-культурнага жыцця, беларусы, нават і тыя, што жылі на сваёй этнічнай тэрыторыі, няўхільна асімілёўваліся, пра што сведчаць наступныя факты: калі за перыяд з 1897 па 1926 год колькасць беларусаў у Расіі па нацыянальнасці вырасла на 33 працэнты, дык па мове, наадварот, зменшылася на 3 працэнты. Ва ўкраінцаў таксама падобныя тэндэнцыі назіраліся, але не ў такіх суадносінах: у першым і другім выпадках быў рост: на 54 і 36 працэнтаў. Натуральна, такія высокія тэмпы русіфікацыі беларусаў РСФСР не маглі не выклікаць занепакоенасці ў тых яе дзяржаўных, партыйных, грамадскіх і культурных дзеячаў, якія глядзелі на данае пытанне з інтэрнацыяналістычных пазіцый і да таго ж ведалі, у які нацыянальна-патрыятычны рух прыйшло карэннае насельніцтва БССР у выніку распачатай там палітыкі беларусізацыі. У 1925 годзе Народны камісарыят асветы РСФСР склікаў спецыяльную нараду па беларускім пытанні і прыняў пастанову, якая абавязвала карэнным чынам палепшыць задавальненне беларусаў у нацыянальнай адукацыі. У сакавіку 1927 года калегія гэтага наркамата прыняла "пастанову аб планавым пераводзе асветных установаў, якія абслугоўваюць беларусаў, на іх родную мову". Пазней, у верасні таго ж года, НКА РСФСР распрацаваў спецыяльную інструкцыю па пераводзе школ, дзе вучыліся беларускія дзеці, на іх родную мову. Прымаючы такога роду дакументы, кіраўніцтва НКА рэгулярна сачыла за іх рэалізацыяй.

**Леанід ЛЫЧ,**
**доктар гістарычных навук,**
**прафесар.**

**(Заканчэнне будзе).**

**ЖЫВЕ ПАЭТ У ГЛЫБІНЦЫ...**

# ЯК РОДНЫ КУТ, ЛЮБЛЮ Я МОВУ МАЦІ

Жыве ПАЭТ у глыбінцы... І не дзе-небудзь, а ў горадзе Глыбокім, што раскінуўся сярод маляўнічых краявідаў Віцебшчыны. Здавалася б, прафесія Тамаша Ляшонка зусім не "паэтычная" -- энергетык, ды гэта не перашкода пісаць прачулыя лірычныя і па-грамадзянску страсныя публіцыстычныя радкі. Пры тым не адно дзесяцігоддзе.

Сёлета ў верасні Тамашу Ляшонку споўнілася 60 гадоў. Дата ўжо сама па сабе знамянальная, а калі ўлічыць, што яна супала з выхадам першай кнігі "Запознены дар", дык радасная ўдвая. Акрамя таго менавіта ў дзень нараджэння Фамы Васільевіча ў мясцовым Доме культуры быў наладжаны вялікі літаратурны вечар. Вітаць юбіляра прыехалі слынныя госці з Мінска -- народны пісьменнік Беларусі Іван Шамякін, вядомы паэт Мікола Мятліцкі, які ў выдавецтве "Мастацкая літаратура" рэдагаваў кнігу Т.Ляшонка, крытык Генадзь Шупенька...

Нарадзіўся Т.Ляшонак (сапраўднае прозвішча Лашонак) у вёсцы Загор'е, тут жа, на Глыбоччыне. Скончыў сярэднюю школу, адслужыў у арміі, паступіў у тэхнічнае вучылішча. Атрымаўшы спецыяльнасць электраманцёра, працаваў у калгасе, адначасова завочна вучыўся ў Беларускім інстытуце механізацыі сельскай гаспадаркі. Набыў яшчэ адну спецыяльнасць --- інжынер-электрык. І вось ужо дваццаць пяць гадоў працуе начальнікам Глыбоцкага міжраённага аддзялення прадпрыемства "Энерганагляд", што ўваходзіць у склад вытворчага аб'яднання "Віцебскэнерга".

Паэзіяй захапіўся ў юнацтве. Друкаваўся найперш у мясцовай газеце, якая цяпер называецца "Веснік Глыбоччыны", але неўзабаве заўважылі творы Фамы Васільевіча і ў сталіцы. Нямала пасадзейнічаў гэтаму вядучы перадачы літаратурнай пошты на рэспубліканскім радыё Мікола Федзюковіч (дарэчы, да зборніка "Запознены дар" ён напісаў прадмову "Пладаносны агонь"). А затым вершы Т.Ляшонка трапілі і ў газеты "Чырвоная змена", "Белорусская нива", штотыднёвік "Літаратура і мастацтва", у часопіс "Вожык".

Вершам Т.Ляшонка ўласцівая шчырасць і непасрэднасць інтанацый. Яго паэзія -- традыцыйная, у ёй нямала знаёмых матываў, але ўсё гэта падаецца так натуральна, гэтак прапушчана праз уласнае сэрца, што ўспрымаецца як паэтычнае адкрыццё. Лірычны герой Т.Ляшонка надзіва цесна адчувае сваю лучнасць з роднай зямлёй, еднасць з Бацькаўшчынай, і пра гэта ён прамаўляе прачулымі сло :

**мне ў жыцці, мой кут бацькоўскі, трэба**
**Не пачуццё ўзаемнасці, о не! --**
**Каб той, другі, каму адкрыеш неба,**
**біў цябе шчэ болей за мяне.**

Гэтыя р вынесены эпіграфам да зборніка. А маглі, з поўным на тое правам, быць пастаўлены і іншыя. Бо ў пераважнай большасці сваёй яны не проста напісаны, а прамоўлены як споведзь. І нарадзіліся як душэўная патрэба выказаць тое, што хвалюе. Ды так перадаць, каб і іншыя адчулі, што на гэтай зямлі яны не чужыя людзі і мусяць любіць яе аддана, бо іншай такой прыгожай і вабнай няма.

Крочыць паэт сцежкамі, блізкімі і дарагімі яму з маленства. І адчуванне такое, што ідзеш разам з ім. Настолькі ўсё перададзена зрокава выразна, так пераканаўча. Як і ў вершы "Шлях вяртання". Няма паэтычнай экзальтаванасці, адсутнічаюць нечаканыя параўнанні, а ўсё роўна бярэ за душу. Яшчэ як бярэ! Бо падобнае не прыдумаеш, яго неабходна перажыць. І неаднойчы:

**Стары бальшак пятляе між барамі**
**У абрамленні векавых бяроз,**
**Я варушу дарожны пыл нагамі**
**У бок мясцін, дзе нарадзіўся й рос.**

Свае словы ў Т.Ляшонка і пра родную мову. Зноў жа, ён не збіраецца падацца арыгінальным, бо добра ведае: там, дзе выказваеш запаветнае, прамаўляеш самае дарагое для цябе, майстэрства дзеля майстэрства мала што значыць і, наадварот, "спрацуюць" вобразы знаёмыя, калі за ўсім гэтым сама праўда пачуцця:

**Як неба сінь, як водар сенажаці,**
**Як пах жывіцы, пошчак салаўя,**
**Як родны кут, -- люблю я мову маці,**
**Цябе, непараўнальная мая.**

А яшчэ нямала ў Фамы Васільевіча вершаў пра каханне. Пры тым такіх, у лірычных героях якіх угадваецца сам аўтар. А яму ёсць аб чым расказаць. Т.Ляшонак даўно закахаўся (разам па жыцці яны крочаць ужо 35 гадоў) у дзяўчыну з рэдкім імем Німфа. Закахаўся і зберог сваё каханне. Усяго, як кажуць, было, а любоў перамагла. Пра гэта і адзін з лепшых вершаў "У дарозе", якому папярэднічаюць такія радкі: "Маёй жонцы -- прысвячаю":

**Нам выпаў лёс паехаць у вагоне**
**Без асаблівых зручнасцей, выгод...**
**Пялёсткі кветак яблыняў на скроні**
**Ляцяць, як снег, ужо не першы год.**
**Падчас было да роспачы складана**
**Не спатыкнуцца, гонар зберагчы,**
**Ды толькі ты заўжды самааддана**
**Мне спрабавала ў тым дапамагчы.**

Дарэчы, паэзія Т.Ляшонка надзіва песенная, мілагучная, напеўная. На гэта не мог не звярнуць увагі магілёўскі кампазітар Мікола Яцкоў і ў хуткім часе напісаў на яго вершы ажно 20 песень. Асобныя з іх і прагучалі на вечары. У тым ліку і "Сетаўскае возера", у якім хораша паяднаны матывы кахання да блізкага чалавека і любасці да роднай зямлі: "Сетаўскае возера -- //Бераг майго шчасця!//, Хай цябе не закрануць// Гора і напасці. //І прымі ты ад мяне //Ўдзячнасць, прывітанне //За глыбокае, як ты, //Светлае каханне".

Разам з тым Т.Ляшонак спрабуе свае сілы ў сатыры і гумары (адзін з раздзелаў кнігі -- "Гумар"), дасягае поспеху і ў публіцыстычнай лірыцы, аб чым засведчыў першы раздзел -- "Грамадзянская лірыка". Як бачна, хоць яго паэтычны дар у нечым і запознены, але ён вельмі патрэбны ўсім, хто любіць паэзію, родную мову. Выхад кнігі Т.Ляшонка яшчэ адно пацвярджэнне таму, што сапраўдная паэзія абавязкова праторыць сабе дарогу. Ды і дэбют у 60 гадоў становіцца святам, калі аўтару ёсць пра што сказаць чытачу.

**Алесь МАРЦІНОВІЧ.**

## СТАРОНКІ З "ВІЦЕБСКАГА АЛЬБОМА"









"Шагал (Chagall) Марк -- французскі жывапісец і графік". Такімі словамі пачыналася інфармацыйная даведка пра мастака, змешчаная ў "Савецкім энцыклапедычным слоўніку" 1985 года выдання. Як гэта ні сумна, аднак для палітызаванага савецкага мастацтвазнаўства Марк Шагал, нягледзячы на сусветнае прызнанне, надта доўгі час заставаўся "французскім мастаком". Змрок гэтага часу скончыўся толькі нядаўна, на жаль, ужо пасля смерці вялікага майстра. Зараз імя Марка Шагала вярнулася на Радзіму -- у Беларусь, у бацькоўскі Віцебск. Летам 1991 года ў Віцебску прайшлі першыя Шагалаўскія дні, якія цяпер штогод у дзень нараджэння мастака збіраюць шматлікіх прыхільнікаў яго творчасці з розных краін свету. Марк Шагал памёр 28 сакавіка 1985 года на 98-м годзе жыцця на віле "Калін" у Сэн-Поль-дэ-Вансе, і мінулым летам толькі два гарады свету адгукнуліся на гэтую сумную дату: Парыж, дзе праходзіла вялікая выстава твораў мастака, і Віцебск, дзе былі наладжаны V Міжнародныя Шагалаўскія чытанні.

У Віцебску на Пакроўскай вуліцы захаваўся бацькоўскі дом Шагала, і зараз вядуцца прац[illegible] яго рэканструкцыі. У горадзе дзейнічае музей Марка Шагала (дырэктар -- Любоў Базан), які адкрыўся ў ліпені 1992 года. Размяшчаецца ён у старым будынку мяжы XIX і XX стагоддзяў. На першым паверсе музея створана экспазіцыя "Марк Шагал і Віцебск" (аўтар -- мастак Андрэй Вярэніч), у [illegible] расказваецца пра Віцебск часоў Шагала, сям'ю маста[illegible]адзеі 1920-х гадоў, што стварылі гораду славу "сталіцы мастацтваў". На другім паверсе экспануюцца творы сучасных мастакоў, а таксама падарункі, зробленыя музею рознымі асобамі. Сярод іх -- некалькі каляровых літаграфій М. Шагала, ахвяраваных дачкой мастака Ідай Маер-Шагал. На жаль, у Віцебску зараз няма ніводнага арыгінала прац Шагала. Аднак хочацца спадзявацца, што такі стан рэчаў -- з'ява часовая і працы вялікага беларускага яўрэя нарэшце змогуць вярнуцца на Радзіму. Іх тут ужо даўно чакаюць.

**Людміла ХМЯЛЬНІЦКАЯ.**

НА ЗДЫМКАХ: музей Марка Шагала ў Віцебску; фрагменты экспазіцыі музея М. Шагала; М. Шагал. "Вёска". Літаграфія, 1977. Падарунак Іды Шагал; М. ШАГАЛ. "П'еро". Каляровая акватынта, 1968. Падарунак Іды Шагал.

**Фота Віктара СТАВЕРА.**

## НОВЫ ЦЭНТР НА ВІЦЕБШЧЫНЕ

Намаганнямі краязнаўцаў некалькіх раёнаў Віцебшчыны створаны культурна-асветніцкі цэнтр імя Язэпа Драздовіча. Асноўная мэта цэнтра -- падтрымка культуры рэгіёна, краязнаўства, навуковых даследаванняў, звязаных з гісторыяй Прыдзісенскага краю.

Плануецца правядзенне навукова-асветных канферэнцый, экспедыцый, выстаў, фестываляў, а таксама выдавецкая і грамадская дзейнасць. На сённяшні дзень ужо зарэгістраваны статут цэнтра. Старшынёй абраны Міхась Райчонак, адзін са стваральнікаў Германавіцкага музея мастацтва і этнаграфіі імя Язэпа Драздовіча.

Як і большасці недзяржаўных арганізацый, цэнтру патрабуецца матэрыяльная падтрымка. Пакуль што толькі Віцебскае аддзяленне Фонду Сораса ўзяло на сябе гэты клопат.

Адно з першых мерапрыемстваў (сумесна з раённымі аддзеламі культуры) -- фэст маладых краязнаўцаў.

## КЛАС ЛАЎРЭАТАЎ

Ці то дзецям пашанцавала на добрага педагога, ці то педагогу пашанцавала з навучэнцамі, але выхаванцы Арыядны Гужалоўскай вылучаюцца ў музычным свеце. Прычым, яшчэ падчас свайго "школьніцтва" ў Рэспубліканскім ліцэі пры Беларускай акадэміі музыкі. Не так даўно 12-гадовы Цімур Шчарбакоў на Міжнародным конкурсе піяністаў і кампазітараў у Румыніі быў адзначаны 1-й прэміяй як кампазітар і 2-й -- як піяніст-выканаўца. Адзінаццацікласнік Іван Сцепанцоў зрабіў сенсацыю на прэстыжным Міжнародным конкурсе піяністаў імя Чурлёніса ў Вільні -- атрымаў 1-ю прэмію. Абодва хлопцы вучацца ў ліцэі ў класе Арыядны Мікалаеўны, сярод выхаванцаў якой юны лаўрэат Дзяніс Маслюк, і ўжо сталы піяніст Уладзімір Дулаў, і заслужаны артыст Беларусі арганіст Канстанцін Шараў...

## СПОРТ

### ФУТБОЛЬНЫЯ НАВІНЫ

Футбалісты Рэспублікі Беларусь завяршылі сезон. Яны прымалі ўдзел у многіх спаборніцтвах. Так, нацыянальныя зборныя правялі матчы алімпійскага адборачнага турніру і першынства Еўропы. У апошніх гульнях яны сустракаліся з мальтыйцамі. Вынікі сустрэч адпаведна -- 1:1 і 2:0 на карысць нашых землякоў.

Мінскае "Дынама" правяло паўторную сустрэчу Кубка УЕФА з брэменскім "Вэрдэрам". Тут беларусы хоць і перамаглі з лікам 2:1, але ў наступны круг выйсці не здолелі, бо ў гасцях прайгралі з буйным лікам -- 0:5.

Нядаўна "Дынама" заваявала, які ўжо раз запар, тытул чэмпіёна рэспублікі.

### ... І ХАКЕЙНЫЯ

Не шанцуе сёлета хакеістам мінскай каманды "Цівалі". Яны няўдала гуляюць у першынстве МХЛ, не змаглі выйсці ў фінал Кубка еўрапейскіх чэмпіёнаў.

Затое радуюць іншыя нашы каманды. На першынстве ВЕХЛ лідзіруюць беларускія клубы "Нёман", "Белсталь" і "Палімір".

Былы мінскі дынамавец Андрэй Кавалёў запрошаны гуляць у нямецкую бундэслігу. Цяпер ён выступіць за хакейны клуб "Крэфельд".

### ІЗНОЎ КАЗЛОЎСКАЯ

У Калінінградзе завяршыліся спаборніцтвы першынства і Кубка свету па самба сярод жанчын. Адной з самых вопытных удзельніц была мінчанка Вераніка Казлоўская.

І на гэты раз яна аказалася мацнейшай у вагавой катэгорыі да 80 кілаграмаў. Беларуска шосты раз выйграла вышэйшую ўзнагароду.



У Палацы спорту ў Мінску адбыўся паўфінальны матч чэмпіянату Еўропы па баскетболу сярод мужчын. Зборная Рэспублікі Беларусь прымала каманду Славакіі і атрымала перамогу з лікам 94:85.

НА ЗДЫМКУ: адзін з вострых момантаў матча.

**Фота Генадзя СЯМЁНАВА.**

Рэдактар Вацлаў МАЦКЕВІЧ

ЗАСНАВАЛЬНІК:

Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства "Радзіма").



НАШ АДРАС:

220005, МІНСК, ПРАСПЕКТ Ф. СКАРЫНЫ, 44.

ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках "Голасу Радзімы", не заўсёды супадаюць.

Газета набрана і звярстана ў камп'ютэрным цэнтры рэдакцыі газеты "Вечерний Минск". Аддрукавана ў друкарні "Беларускі Дом друку". (220041, г. Мінск, пр. Скарыны,77). Тыраж 6 000 экз. Індэкс 63854. Зак.5871. Падпісана да друку 20.11.1995 г.